

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана:** **Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл.; **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лятніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 42 (526) | Нядзеля, 23-га кастрычніка 1960 | ГОД ВЫДАНЬНЯ 14

# За больш станоўчую палітыку

Хаця Хрушчоў ужо даўно пакінуў Нью Ёрк і знаходзіцца ў Маскве, то, аднак, бяспрыкладныя ў гісторыі дыпляматыі авантурніцтвы, нарobленыя ім на сэсіі Генэральнай Асамблеі Задзіночаных Нацыяў, ня перасталі й дагэтуль займаць увагі заходніх палітыкаў, ня сходзяць яшчэ з балонаў заходняе прэсы. І гэта зусім зразумела. За цыркавай клаўнадай кіраўніка савецкае дзяржавы, якая, зусім натуральна, прынесла шмат разрыўкі заходнім дыпляматам і журналістым мусіць скрывацца й напэўна скрываецца штосьці й сур'ёзнае.

На Захадзе высоўваецца розныя прычыны авантурніцкага захоўваньня Хрушчова ў Нью Ёрку. Адныя шукаюць разьвязкі ў ідэялягічных разыходжаньнях між Масквой і Пэкінам, цьвердзячы, што сваёй ваяўнічай пазыцыяй супраць Захаду Хрушчоў хацеў заманіфэставаць сваю салідарнасьць з чырвоным Кітаем, які, як ведама, супраць палітыкі суіснаваньня з Захадам. Іншыя ўважаюць, што нападаючы на заходні каляніялізм, ён імкнуўся перацягнуць на свой бок новых сяброў Задзіночаных Нацыяў Азіі й Афрыкі й такім чынам, здабыўшы сабе бальшыню, апанаваць Задзіночаныя Нацыі. Пры гэтым ня трэба забывацца, што калі ў мамэнт паўстаньня Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў у 1945 годзе толькі 15 азіяцка-афрыканскіх дзяржаваў было ў ейным складзе, дык на апошняй сэсіі на 99 сяброў ЗН было ўжо аж 50 прадстаўнікоў краінаў Азіі й Афрыкі. Значыцца абсалютная бальшыня.

Бясспрэчна, абедзьве гэтыя прычыны на столькі важныя, што яны не маглі астацца бяз уплыву на пазыцыю Савецкага Саюзу й захоўваньне Хрушчова. Аднак гэтых прычынаў далёка замала, каб можна было толькі імі выясьняць сяньняшні курс савецкай палітыкі й тактыкі. Мусім згадзіцца зь бясспрэчным фактам, што незалежна ад часовых каньюнктуральных патрэбаў савецкая палітыка дыктуецца сталымі ідэялягічнымі мамэнтамі. У залежнасьці ад сытуацыі й каньюнктурных патрэбаў мяняюцца толькі формы гэтае палітыкі. раз яны робяцца мяккімі, іншым разам завайстраюцца й пераходзяць у сваей нагласьці як апошнім разам, усякія меры, але прынцыпы гэтае палітыкі астаюцца нязьменнымі.

Гэтымі сталымі й нязьменнымі прынцыпамі савецкае палітыкі, абумоўленымі камуністычнай ідэялёгіяй, зьяўляецца, як ведама, ня болей і ня меней, як зьнішчэньне супярэчнага камунізму ладу й апанаваньне цэлага сьвету. Ня толькі ведама гэта заходнім палітыкам, але й кажнаму інтэлігентнаму чалавеку. Уся трагэдыя толькі ў тым, што на Захадзе ацэньваюць гэтыя прынцыпы камуністычнай ідэялёгіі адно толькі як абстрактную тэорыю, адарваную ад практычнага жыцьця, тады калі ўся палітычная практыка і Савецкага Саюзу й камуністычнага Кітаю на гэтай тэорыі беспасярэдна базуецца й ад яе ніколі й ні на шаг не адступае.

Заходняя палітыка ўвесь час разьвівалася пад знакам шуканьня суіснаваньня з Савецкім Саюзам, а таму кіраўнікі гэтае палітыкі старанна ўнікалі ўсіх тых мамэнтаў, якія гэтаму суіснаваньню маглі-б перашкодзіць. Дзякуючы гэтаму стварылася несамавітая сытуацыя, што ўся ініцыятыва ў фармаваньні й разьвіцьці ўзаемадачыненьняў між Захадам і Ўсходам была пакінутая Савецкаму Саюзу, а заходнія дзяржавы адно толькі ў той ці іншы спосаб рэагавалі на розныя савецкія ходы. У выніку гэтага Савецкі Саюз у змаганьні з Захадам заўсёды быў у наступе, а заходнія дзяржавы займалі вылучна абаронныя пазыцыі.

Ня трэба шырока разводзіцца над тым, да якіх сумных вынікаў такая блізарукая, пазбаўленая ўсякае прадбачлівасьці й узалежненая ад ініцыятывы Саветаў заходняя палітыка прывяла. За апошніх пятнаццаць год, якія нас дзеляць ад заканчэньня Другой сьветавай вайны, Савецкі Саюз і камуністычны Кітай здабывалі ў сьвеце адну пазыцыю за другой, тады калі Захад свае пазыцыі ўсьцяж траціў.

Паводля заходняе канцэпцыі суіснаваньне з Савецкім Саюзам павінна палягаць на тым, што абодвымі бакамі — Захадам і Ўсходам спыняецца халодная вайна. вызнаецца статус кво і на гэтай базе разьвіваецца між імі згоднае супрацоўніцтва ў розных галінах міжнароднага жыцьця. Ужо такая канцэпцыя суіснаваньня зьяўляецца для Захаду капітуляцыяй перад Савецкім Саюзам, а для паняволеных народаў вельмі шкоднай і несправядлівай, бо яна замацоўвае нявольніцкі стан апанаваных Савецкім Саюзам народаў.

Але такая канцэпцыя суіснаваньня, хоць і выгадная для Савецкага Саюзу, яго яшчэ не задавальняе. Саветы вымагаюць такога суіснаваньня, пры якім іхныя пазыцыі ў сьвеце ня толькі захоўваліся-б і Захадам вызнаваліся-б, але ўсьцяж расшыраліся-б за кошт звужэньня й аслабленьня пазыцыяў заходніх дзяржаваў. Калі-ж дзяржавы Захаду ў якім-небудзь канкрэтным выпадку ставяць станоўчы супраціў савецкім патрабаваньням, тады Крэмль звычайна падыймае крык, што быццам Захад зыходзіць з каэгзыстэнцыйнага шляху й вяртаецца да стану халоднае вайны.

На пацьверджаньне такой крэмлёўскай тактыкі можна было-б прывесьці столькі канкрэтных прыкладаў, што не хапіла-б месца на іхнае пералічэньне. Ды няма ў гэтым і патрэбы, бо чаго вартае савецкае суіснаваньне на Захадзе ўжо дастаткова ведама, і то асабліва ў вапошні мамэнт, калі Крэмль вуснамі Хрушчова завайстрыў да нябывалых разьмераў свой антызаходні курс, што слова суіснаваньне пачынае памалу выходзіць з палітычнага слоўніка кіраўнікоў заходняе палітыкі. Адзін толькі небарака Макмілян па-донкішоцку змагаецца за аднаўленьне каэгзыстэнцыйнай сялянкі й не пакінуў мрояў аб новым спатканьні на вышэйшай узроўні.

Галоўным аружжам Савецкага Саюзу ў цяперашняй фазе ягонага змаганьня з Захадам зьяўляецца абвінавачаньне апошняга ў каляніялізьме ў дачыненьні да адсталых і недаразьвітых краінаў Азіі, Афрыкі й лацінскай Амэрыкі. Апошняя XV-ая сэсія Генэральнай Асамблеі ЗН была гэтага найлепшай ілюстрацыяй.

Саветы маюць сваясаблівае разуменьне каляніялізму, якога ў запраўднасьці ў ягонай клясычнай форме на Захадзе

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

# Справа, за якую трэба брацца цяпер

1963-ці год будзе ў нас вялікім юбілейным годам — 100-ай гадавінай паўстаньня беларускага, летувіскага й польскага народаў супраць маскоўскага паняволеньня. У дадзеным выпадку абмяжуемся толькі да нашае нацыі — Беларусаў.

Паўстаньне 1863—64 гадоў у нас непарыўна зьвязана із слаўным імём, героем, душой і кіраўніком гэтага паўстаньня — Кастусём Каліноўскім. Адразу адцемім, што, калі-б Кастусь Каліноўскі быў Палякам ці Расейцам — ягоныя помнікі красаваліся-б па ўсіх большых гарадох, а літаратура аб ім налічвала-б тысячы тамоў. Кастусь-жа быў Беларусам...

Можа хтосьці скажа, што яшчэ зарана думаць і плянаваць на 1963 год. Гэта ня так. У нас-жа казалі: «Не тады сабак карміць, як на паляваньне йсьці». Таксама й тут — гэтую гадавіну, калі мы яе хочам належна адзначыць, дык мусім ужо цяпер падумаць — як?

На нашу думку, незалежна ад таго, што напэўна будуць ладзіцца ўрачыстыя Багаслужбы, акадэміі й іншыя з гэтым зьвязаныя імпрэзы, мы мусім у 100-ую гадавіну геройскага чыну нашага народу здабыцца на трывалы помнік для аўтара й героя падзеяў 1863—64 гадоў — Кастуся Каліноўскага й наагул цэлага паўстаньня.

Ня гледзячы на тое, што 100 гадавіна паўстаньня 1963—64 гадоў, жыцьцё й дзейнасьць Кастуся Каліноўскага будуць шырока адзначаныя ў савецкай беларускай, летувіскай, польскай прэсе й літаратуры, мы ня мусім забывацца, што Палякі (з рэвэрансам у бок Масквы) ды Летувісы (яшчэ з большым рэвэрансам) будуць ізноў крычаць аб рэвалюцыйным змаганьні прагрэсыўнае часткі нашае нацыі супраць «самадзяржаўя» пад кіраўніцтвам «русских революционеров». Гэтых апошніх будуць тысячы, зза іх, бадай, ня ўбачыш і постаці Кастуся Каліноўскага. Дакладна, як у некаторых дасюлешніх выданьнях аб паўстаньні 1963 году й Кастусю Каліноўскім.

А цяпер пераходзім канкрэтна да справы.

Што нашае маладое пакаленьне ведае аб Кастусю Каліноўскім? А яшчэ больш — адкуль яно можа даведацца? А што ведаюць аб Каліноўскім і паўстаньні 1863 году чужынцы? Яны ведаюць тое, што напісалі, пішуць і будуць пісаць аб гэтым нашыя суседзі, зразумела, у сьвятле выгадным ім, а не ў сьвятле аб'ектыўнасьці. І трэба сказаць, што літаратура аб паўстаньні й Кастусю Каліноўскім не такая ўжо бедная. Аднак няшчасьце тое, што для Палякаў Кастусь Каліноўскі быў польскім рэвалюцыянэрам, а ў найлепшым выпадку — польскага паходжаньня. Для Расейцаў... Што тычыцца апошніх, дык запраўды тут цяжка разабрацца, усё залежыла ад таго, якая была палітычная каньюнктура: за часоў царызму — гэта быў «мятежник», за бальшавікоў — то рэвалюцыянэр і герой, то «нацдэм» (1863 г.!), то забаронены, то «рэгабілітаваны» і, фактычна, невядома... Хаця, вядома — чаму!

І вось тут перад намі, беларускімі палітычнымі эмігрантамі, паўстае заданьне ў поўнай шырыні паказаць паўстаньне 1863 году, постаць Кастуся Каліноўскага, такім якім ён быў у запраўднасьці, ягоныя ідэялы, імкненьні, дзейнасьць. Аб'ектыўна й усебакова! На аснове салідных крыніц. І, ня гледзячы на тое, што аб'ектыўныя крыніцы (у дачыненьні да паўстаньня й асобы Кастуся Каліноўскага ня былі аб'ектыўныя ні Палякі ні Расейцы, а навет часамі й супрацоўнікі Кастуся — Беларусы й Летувісы) запраўды сяньня цяжка знайсьці, усё-ж, маючы больш за два гады часу, можна шмат зрабіць.

Нам, Беларусам, патрэбнае грунтоўнае дасьледваньне жыцьця й дзейнасьці Кастуся Каліноўскага яшчэ й дзеля таго, каб давесьці розным дасьледвальнікам і навукоўцам тыпу Н. Вакара, што Кастусь Каліноўскі гаворыць за сябе сваімі дзеямі й чынамі, а «беларускія нацыяналістыя» ня зьбіраюцца яму рабіць нейкага міту (гл. «Belorussia — Making of a Nation» by N. Vakar).

Гэта мусіла-б быць праца, якая-б ня толькі адзначала 100-ю гадавіну паўстаньня, апісвала жыцьцё паўстанскага правадыра, але адначасова гэта мусіла-б быць глыбокая студыя дадзенага пэрыяду ў гісторыі Беларусі, бо толькі на фоне агульна палітычна-эканамічна-сацыяльных дачыненьняў можна да пэўнай ступені (ніколі, зразумела, 100-працэнтна) рабіць вывады.

Бязумоўна, такая праца патрабуе вялікіх высілкаў, асабліва тут на чужыне, дзе не заўсёды можна карыстацца беспасярэднімі крыніцамі. Але, ведаючы, што тыя, якім такі беспасярэдні доступ да крыніцаў магчымы — ня змогуць у дадзеным выпадку нічога зрабіць, нам трэба, да гэтае юбілейнае даты, здабыцца на найбольшае.

«Паўстаньне 1863 году й Кастусь Каліноўскі», ці «Кастусь Каліноўскі — жыцьцё й дзейнасьць» — гэта ня йграе ролі. Але пара ўжо каб нарэшце Кастусь Каліноўскі дачакаўся салíднага, усебаковага, аб'ектыўнага гістарычнага выданьня. Гэта мусіла-б быць запраўды рэпрэзэнтацыйная кніга, з фатаграфіямі й фатакопіямі дакумэнтаў, з усімі ўлась-

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

# Яшчэ аб Цімоху Гарбунову

Зь некаторага часу з балонак менскага беларускага друку былі зьніклі ўспамінкі аб адным з сакратароў ЦК КПБ Цімоху Гарбунову, які на працягу доўгага часу пасьля вайны амаль штодня ўспамінаўся ў зьвязку з той або іншай падзеяй на Беларусі. Гэтае зьнікненьне ўспамінкаў давала падставу, праўда, вельмі хісткую, думаць, што Ц. Гарбуноў, урэшце, бясьсьледна зьнік з арэны беларускага жыцьця, як зьніклі не адзін партыйны «бос», і могуць наступіць некаторыя палёгкі для тых беларускіх дзеячоў, што знаходзяцца пад ціскам савецкай «свабоды», на колькі гэта магло залежаць у савецкай алігархіі ад аднае пэрсоны.

Мяркаваньні не спраўдзіліся. Як нагадвае «Бацькаўшчына» (№ 35-519), Цімох Гарбуноў зноў вынырнуў наверх, ды ўжо не ў якасьці якога-небудзь партыйнага чына, які, як ведама, ніякімі асаблівымі кваліфікацыямі, апрача безгляднай дэмагогіі ды «браць за морду», ня вылучаецца, а ўжо з навуковай годнасьцю «акадэміка» Беларускай Акадэміі Навук. «Бацькаўшчына» спыняецца на ягоным (Гарбуновым) выступленьні на балонках газэцінкі «Голас радзімы». Усім ведама, як надаецца навуковая годнасьць партыйным цівуном, падобным Гарбунову, таму на ягонай «навуковай» падрыхтоўцы мы спыняцца ня будзем. Удумлівы чытач сам вызначыць месца гэтай навуковасьці, прачытаўшы ягонае (Гарбунова) выступленьне ў успомненай газэціне, у якім хаваецца праўда — жудасная, неадхільная праўда забойства нашай нешчасьлівай радзімы — Беларусі падобнымі Цімоху Гарбунову партыйнымі цівунамі, насланымі на Беларусь з Масквы ды Ленінграду, учыненага ў імя «дружбы» зь вялікім «старэйшым братам». Але праўды гэтае ўжо нікому і ніколі схаваць ня ўдасца — дзякуючы нам, беларускай эміграцыі ў вольным сьвеце, яна запісваецца на скрыжалі сусьветнае гісторыі. І, мы верым, прыйдзе час, калі гэтую забойчую «дружбу» народаў, аб якой так без натхненьня гаворыць у сваім выступленьні і сам Ц. Гарбуноў, народ наш будзе ўспамінаць, як успамінаюць вялікія пошасьці-чуму ды халеру. А разам з тым, успомняць і Цімоха Гарбунова з падобнымі яму, якія стасавалі гэтае забойства.

Гэта адзін з тых, што ў трыццатых гадох партыя тысячамі пасылала з Масквы і Ленінграду на Беларусь для «выкарчоўваньня рэштак беларускай нацдэмаўшчыны». Гэта была выгадаваная загадзя на спэцыяльных курсах Сталінам і сталінцамі зграя для ліквідацыі тых правоў і прывілеяў, якія былі заваяваны да кастрычніцкай рэвалюцыі нацыянальнымі меншынямі былой царскай імпэрыі.

Дэвізам гэтае зграі было толькі адно: «браць за морду» кажнага і ўсякага, хто ня выракся свайго народу, хто ня цураўся свае роднае мовы і хоць у найменшай ступені выяўлены, як нацыянальная адзінка. Звычайна, узор беларускага арнамэнту на кашулі або на поясе, вітаньне па-беларуску із знаёмымі, захапленьне бліскучай беларускай мінуўшчынай, калі тут квітнела высокая культура і панавала досыць паважная талеранцыя чалавечае адзінкі, у той час, як на Маскоўшчыне панавала цемра й бязьлітаснае самаўладзтва цароў і іхных служак, — усё гэта прымалася за абразу вялікага старэйшага брата і каралася, як страшэннае злачынства супроць савецкае ўлады.

Спачатку Ц. Гарбуноў, між іншым удзельнік прыдушэньня Кранштадзкага паўстаньня, прыбыўшы зь Ленінграду, прабываў на адным з адказных становішчаў у самым ЦК КП(б)Б, які яшчэ ня быў канчаткова ачышчаны ад беларускіх элемэнтаў, хоць-бы сабе ні чым і не выявіўшых сябе з пункту гледжаньня нацыянальна-беларускага, але якому, усёроўна, не давярала Масква.

Зацяты ненавісьнік усяго шчыра беларускага і тых людзей, што праводзілі й абаранялі гэтае беларускае, ён, звычайна, кіраваў і ўзначальваў розныя камісіі па чыстках, у выніку чаго паплаціліся жыцьцём у ссылках і турмах тысячы выдатных беларускіх інтэлігэнтаў (пісьменьнікаў, навукоўцаў, настаўнікаў, мастакоў, савецкіх выдатных працаўнікоў. Дададзім, што ў гэты-ж час падрыхтоўвалася ў ЦК КП(б)Б так званая рэформа беларускага правапісу, якая прынесла і прыносіць дасюль так шмат шкоды беларускай мове.

Пазбавіўшыся ад Беларусаў у самым ЦК КП(б)Б і на высокіх становішчах у камісарыятах, як Наркамзэм (Прышчэпаў), Наркамасьветы (Ігнатоўскі) і ў кіраўніцтве Беларускай Акадэміі Навук, партыя перакідае Цімоха Гарбунова на іншы адказны адрэзак «ідэялягічнага фронту» — у Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.

З вонкавага выгляду лагодны й ціхі, гэты чалавек выявіў сябе тут як самы змрочны душыцель, цямрал беларускае літаратуры. Уся ўвага аддавалася перакладной, з расейскае мовы, літаратуры; пляны выданьняў беларускай літаратуры бясконца скарачаліся, а кнігі, што здаваліся ў друк да яго, траплялі не на паліцы кнігарняў і крам, а ў скляпеньні для забароненай літаратуры. Гэтае літаратуры там ляжалі горы! Але, гэтым дзейнасьць Гарбунова не абмяжоўвалася: ён узначальваў тут так званы «спэц-аддзел», куды падаваліся агэнтурай паклёпы на беларускіх пісьменьнікаў і супрацоўнікаў Бел. Дзярж. Выд. У выніку ягонай дзейнасьці быў зьняты зь кіраўніцтва Бел. Дзярж. Выд. і растраляны Паўлюк Шастак (оў), былы сябра Беларускай Сацыялістычнай Грамады, і шмат іншых адказных і тэхнічных працаўнікоў. Вялікай рызыкай было ў гэты час здаць для друку ў БДВ кніжку: гэта магло скончыцца для аўтара вельмі сумна! Адно нятрапнае на думку рэдактароў слова магло паслужыць повадам для абвінавачаньня ў нацыянал дэмакратызьме і ў выніку гэтага арыштам. Ц. Гарбуноў заняў месца Паўлюка Шастака (дырэктар) і быў на гэтай пасадзе аж да самай вайны і да самай вайны ня спыняліся рэпрэсіі і арышты сярод беларускай творчай інтэлігэнцыі і з кажным годам беларускія выданьні ўсё скарачаліся й скарачаліся!

Пасьля вайны ён зноў апынуўся ў ЦК КП(б)Б на становішчы сакратара па прапагандзе, г. зн. лёс беларускай культуры зноў апынуўся ў ягоных руках. Ці можна дзівіцца таму, што найлепшыя беларускія творы ня могуць патрапіць у друк, пляны для беларускай літаратуры скарачаюцца, а тая, што выходзіць з друку, не трапляе на паліцы кнігарняў ды крамаў?!

За гэтую сваю брудна-паліцэйскую дзейнасьць цяпер Цімох Гарбуноў і «ўзнагароджаны» партыяй навуковай годнасьцю «акадэміка».

**Ул. Серада**

# За больш станоўчую палітыку

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

ўжо амаль ня існуе. Усе краіны Паўдзённа-Ўсходняй Азіі, Сярэдняга Ўсходу, якія былі ў каляніяльнай залежнасьці ад Захаду, ужо пасьля апошняй вайны сталіся поўнасьцю незалежнымі. Бальшыня афрыканскіх краінаў, што зьяўляліся калёніямі эўрапэйскіх дзяржаваў, на нашых вачох атрымала з рук апошніх поўную дзяржаўную незалежнасьць, а ўсе астальныя знаходзяцца ў працэсе свайго ўнезалежненьня. А тым часам для савецкае палітыкі пытаньне заходняга каляніялізму якраз цяпер сталася асабліва актуальным, пры чым гэты каляніялізм Масква знаходзіць ня толькі ў Азіі й Афрыцы, але навет і ў лацінскай Амэрыцы, дзе ад каляніялізму няма й сьледу.

Пад паняцьце каляніялізму Савецкі Саюз падцягвае эканамічнае супрацоўніцтва Захаду з адсталымі й недаразьвітымі краінамі Азіі, Афрыкі й лацінскай Амэрыкі й зьвязанае зь ім супрацоўніцтва палітычнае й культурнае. Раўналежна з гэтым супрацоўніцтвам плыве ў вадсталыя краіны й вялізарная эканамічная помач Захаду. Прыкладам, у дзяржаўным бюджэце Амэрыкі заўсёды фігуруе вялізарная пазыцыя эканамічнае помачы для недаразьвітых краінаў. Такім чынам гэтыя эканамічныя сувязі Захаду з адсталымі краінамі ня толькі прыносяць вялізарную карысьць для апошніх, але навет зьяўляюцца неабходнай перадумовай іхнага існаваньня й прагрэсу.

Пасьля доўгіх і няўдалых спробаў Масква канчальна пераканалася, што ня зможа падпарадкаваць сваім уплывам ніводнае разьвітае краіны Захаду, навет такой, як Італія й Францыя, у якіх камуністычны рух вельмі моцны. Дзеля гэтага ўсю сваю ўвагу сьціравала цяпер на недаразьвітыя краіны Азіі, Афрыкі й Паўдзённае Амэрыкі. Каб адцягнуць гэтыя краіны ад Захаду й падпарадкаваць іх собскім уплывам, Масква і ўзмоцніла свае абвінавачаньні Захаду ў каляніялізьме ў дачыненьні да гэтых краінаў.

Атрымліваецца парадаксальная сытуацыя: адзіная сяньня каляніяльная краіна ў сьвеце, якой зьяўляецца Савецкі Саюз і якая ў дачыненьні да паняволеных ёй народаў праводзіць найжахлівейшую каляніяльную палітыку, выступае ў вабароне нацыянальных правоў і дзяржаўнае незалежнасьці й супраць каляніялізму вызваленых Захадам ад усякае каляніяльнае й дзяржаўнае залежнасьці многіх народаў і краінаў сьвету. Ня менш парадаксальнае палажэньне і ў тым, што Захад у сваей абароне перад савецкім наступам высоўвае ўсякія іншыя злачынствы Савецкага Саюзу за выключэньнем злачынства мо найцяжэйшага, якім зьяўляецца каляніяльны вызыск паняволеных ім народаў.

Прынятая амэрыканскім Кангрэсам у 1959 годзе Рэзалюцыя ў вабароне паняволеных камунізмам народаў і выдадзеная на ейнай падставе амэрыканскім прэзыдэнтам Дэклярацыя аб устанаўленьні Тыдня Паняволеных Народаў зьяўляецца прыгожым дзяржаўным актам, у гэтым сэньсе да гэтага часу унікальным, які, на жаль, мае толькі прапагандовы эфэкт, бо гэты акт яшчэ не падмацоўваецца рэальнай практычнай палітыкай.

На цяперашняй сэсіі Генэральнай Асамблеі ЗН Хрушчоў падаў праект «Дэклярацыі аб прызнаньні незалежнасьці каляніяльным краінам і народам», які Палітычнай Камісіяй ЗН быў аднагалосна пастаўлены на парадак дня Генэральнай Асамблеі. «Дэклярацыя» гаворыць вылучна аб заходнім каляніялізьме й дамагаецца дзяржаўнай незалежнасьці вылучна для краінаў, што знаходзяцца ў дзяржаўнай залежнасьці ад Захаду. Нас ня дзівіць, што гэты праект Хрушчова быў прыняты аднагалосна, бо пры яго абмеркаваньні на пленарным паседжаньні будзе яшчэ добрая нагода для належнага асуджэньня якраз савецкага каляніялізму. Дзівіць толькі тое, што ў Палітычнай Камісіі ЗН, на якой справа пастаўленьня праекту «Дэклярацыі» на парадак дня абмяркоўвалася, былі прадстаўнікамі заходніх дзяржаваў выказаныя вельмі асьцярожныя й ненастойлівыя патрабаваньні, каб у праекце «Дэклярацыі» быў названы сваім собскім іменем і савецкі каляніялізм. Яшчэ ня позна спадзявацца, што падчас дэбатаў на пленарным паседжаньні будзе гэта зроблена. Але і ў такім выпадку справа скончыцца на бясплодных, хоць мо й няпрыемных для Саветаў гутарках.

Не падлягае ніякім сумлевам, што абвінавачваньні Захаду ў каляніялізьме й нацыянальнай дыскрымінацыі недаразьвітых народаў ёсьць і будуць на даўжэйшы час галоўнай зброяй камуністычнага наступу супраць Захаду. Таму Захад у сваім змаганьні з камунізмам і ягонымі носьбітамі павінен ува ўсей шырыні выкарыстаць савецкі каляніялізм, нацыянальнае паняволеньне нерасейскіх народаў, палітыку народаўбійства й прымусовае русыфікацыі і ўсе гэтыя камуністычныя злачынствы зрабіць галоўнай зброяй сваей практычнай палітыкі.

**Язэп Каранеўскі**

## Справа за якую трэба брацца...

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

цівасьцямі навуковага гістарычнага выданьня. Што тычыцца фатакопіяў дакумэнтаў — дык можна было-б зьвярнуцца да нашых суродзічаў у Варшаве й Беластоку, бо ведама, што ў Варшаве ёсьць шмат дакумэнтаў аб паўстаньні 1863 году й аб Кастусю Каліноўскім. Аўтар, ці аўтары, такое працы маглі-б навязаць сувязь з Кардовічам, кнігу якога аб Кастусю Каліноўскім мы ў свой час разглядалі на бачынах «Бацькаўшчыны».

Мы ўпэўнены, што знойдзецца дасьледнік паўстаньня 1863 году ды жыцьця й дзейнасьці Кастуся Каліноўскага, а выдавецтва «Бацькаўшчына», пры ахвярнай падтрымцы сваіх чытачоў — будзе мець магчымасьць напярэдадні гістарычнае даты выдаць гэтае каштоўнае выданьне.

Толькі, бязумоўна, гэтае справы адкладаць да 1963 году нельга. За яе трэба брацца сяньня.

# Апошні прыклад савецкай дэмагогіі

13 кастрычніка на разгляд Пленуму XV Сэсіі Задзіночаных Нацыяў аднагалосна была прынятая савецкая «Дэклярацыя аб прызнаньні незалежнасьці каляніяльным краінам і народам», ведама, толькі не савецкага каляніяльнага сьвету. З засьцярогамі да яе раней выказаліся толькі брытанскі прэм'ер-міністар Макмілан (па джэнтэльмэнску: каб толькі не пакрыўдзіць Савецкі Саюз), аўстралійскі прэм'ер-міністар Мэнзіс і больш станоўча канадыйскі прэм'ер-міністар Дыфэнбэйкэр, які патрабаваў прылучыць да дэклярацыі й савецка-расейскі каляніялізм. Апошняму, як ведама, адказаў і наш партыйны цівун на Беларусі К. Мазураў, але пра гэта пазьней.

Напярэдадні прыняцьця «Дэклярацыі» забраў таксама слова прадстаўнік Філіпінаў Сумулёнг, станоўча патрабаваўшы ўнесьці на разгляд Пленуму пытаньне савецка-расейскага каляніялізму ў Усходняй Эўропе, а таксама крануўся гэтага каляніялізму й прадстаўнік Задзіночаных Штатаў Амэрыкі Вілкокс. Першы зь іх быў перарваны дзікімі выхадкамі Хрушчова, які, паслугоўваючыся моцным аргумэнтам-чаравікам, назваў «наіўнага» Сумулёнга дурнем і «халопом» амэрыканскага імпэрыялізму. Другога сьпіхнуў з трыбуны кіраўнік дэлегацыі Румыніі за тое, што Вілкокс наважыўся абразіць «незалежнасьць» і «сувэраннасьць» Румыніі. Пры гэтым пацярпеў і прэзыдэнт XV Сэсіі Задзіночаных Нацыяў Ірляндзец Боланд — гэты «амэрыканскі нявольнік» і «зраднік» ірляндзкага народу. «Пачакай, — сказаў яму разьюшаны Мэцынчэску, — як ты будзеш пакараны народам!»

Дэлегацыі іншых заходніх краінаў сядзелі, як мыш пад мятлой — як-жа можна ўмешвацца ў нутраныя справы Савецкага Саюзу, абражаць яго нейкай там нацыянальнай праблемай. Малады нацыянальны эгаізм афрыканскіх народаў тут зразумелы й выбачальны, што аднак ня выбачальна для такіх азіяцкіх краінаў, як Індыя, Японія, Іран, Турцыя й г. д.

Што-ж уяўляе зь сябе гэтая савецкая «Дэклярацыя аб прызнаньні незалежнасьці каляніяльным краінам і народам»? З гледзішча на тэкст, нічога ня можна закінуць. Гуманная, быццам-бы тая славутая «Дэклярацыя правоў народаў Расеі». Незалежнасьць і нацыянальная вольнасьць для ўсіх, выбачце... для «каляніяльных народаў» Афрыкі, і трэба разумець таксама, Амэрыкі, тых кантынэнтаў, народы якіх знаходзяцца пад ціскам... каляніялізму заходніх дзяржаваў. У ёй, напрыклад, сказана: «Кажны сумленны чалавек і кажны ўрад, якія ўзапраўды стаяць за раўнапраўнасьць народаў, **за ажыцьцяўленьне вялікіх мэтаў і прынцыпаў, абвешчаных у Статуце Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў**, ня могуць ня бачыць, што каляніялізм ёсьць аджыўшая й ганебная зьява ў жыцьці сучаснага чалавецтва». Высокія прынцыпы, нельга не пагадзіцца. Далей: «Дзяржавы — сябры Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, якія выступаюць з гэтай Дэклярацыяй, лічаць, што кажны ўрад, які не на словах, а на справе стаіць за мір і прагрэс, павінен паважаць законныя правы ўсіх **бяз выключэньня народаў** у іхных патрабаваньнях роўнасьці, справядлівасьці й незалежнасьці». Таксама: «Дзяржавы — сябры Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў выходзяць з таго, **што кажная краіна й кажны народ маюць неад'емнае й поўнае права на самастойнае існаваньне».** А таксама: «Цяпер ужо ніхто ня можа сьцьвярджаць, быццам вызваленьне нацыяў прывядзе да заняладу гаспадаркі...» і г. д., і г. д.

Як кантраст гэтаму мы бачылі, як дзічэў Хрушчоў і ягоныя лякаі пры адным толькі намёку, што й у падсавецкім сьвеце не ў парадку з нацыянальным пытаньнем. На адным сьнеданьні (7 кастрычніка) з журналістамі пры АЗН Хрушчоў проста сказаў: «Уявіце сабе, што прадстаўніком дзяржаваў Задзіночаных Нацыяў прыйшла ў галаву думка: давайце пастановім ліквідаваць сацыялістычную сыстэму ў Савецкім Саюзе. Што было-б, калі-б за гэта прагаласавалі ўсе, апрача нас, прадстаўнікоў сацыялістычных краінаў? Што-б мы на гэта сказалі? Мы сказалі-б, як у нас у рускіх гавораць у такіх выпадках: «Ідзеце вон! Вы прынялі такую пастанову, вы й жывіце зь ей, а мы, як жылі, так і будзем. А хто сунецца, то прабачце за такі недалікатны, але даволі вобразны выраз, — таму ў морду дадзём!». Гэтыя словы Хрушчова ўзятыя з савецкай прэсы, падгладжаныя. Хрушчоў бязь ніякага прабачаньня «біў у морду» ды пасылаў «да чорта». Аднак ня ў гэтым справэ. Справа ў тым, што гэтая савецкая «Дэклярацыя» прызначаная для вонкавага рынку; калі-ж ходзіць пра асуджэньне савецка-расейскага каляніялізму, дык няважныя ані галасы сяброў Задзіночаных Нацыяў, ані прынцыпы й мэты Статуту гэтае арганізацыі, ані вытычныя гэтай савецкай «Дэклярацыі» — «дадзём у морду»!

Чаму гэта так? Зьвернемся хоць-бы да слоў К. Мазурава. Ён гаварыў, «насьвятліўшы» дасягненьні «беларускае незалежнае дзяржавы й народу»: «Нас, напрыклад, абурыў да глыбіні душы як тон, так і характар прамовы канадзкага прэм'ер-міністра пана Дыфэнбэйкэра. Гэты высокапастаўлены дзяржаўны дзеяч паўтарыў тут паклёп, які пашыраюць выгнаныя з Савецкага Саюзу ваенныя й іншыя злачынцы, падонкі грамадзтва, якія прытуліліся ў заходніх краінах, у тым ліку й у Канадзе. Ён гаварыў тут аб тым, што народы Савецкага Саюзу нібыта не свабодныя, і навет заклікаў да правядзеньня ў СССР свабодных выбараў, вядома, свабодных у яго ўяўленьні. Ня думаю, што прэм'ер-міністар Канады не інфармаваны аб становішчы спраў у Савецкім Саюзе. Ён, бязумоўна, ведае, што ў нашай краіне ў вадпаведнасьці з Канстытуцыяй пэрыядычна праводзяцца самыя дэмакратычныя ў сьвеце выбары дзяржаўных ворганаў. Што датычыць Савецкай улады й сацыялізму, дык наш народ прагаласаваў за гэта із зброяй у руках яшчэ ў гады грамадзянскай вайны, выгнаўшы з краіны войскі чатырнаццаці імпэрыялістычных дзяржаваў, у тым ліку й ЗША, якія прабавалі зьнішчыць у Расеі новы грамадзкі лад».

Як наіўна й адначасна цынічна гучыць гэтае мазураўскае асьветчаньне. Хопіць заглянуць у савецкую Канстытуцыю, каб зьдзівіцца свабодай падсавецкіх народаў, адгарнуць бачынкі савецкай гістарычнай літаратуры, каб знайсьці змаганьне гэтых народаў за «сацыялізм»! Мы больш чымся ўпэўненыя, што пры гэтых словах К. Мазураў страшэнна разважаў: «ліха вазьмі, як тут дагадзіць Маскве й Хрушчову, бо іначай мая «высокапастаўленая дзяржаўная асоба» заўтра паляціць як піць даць».

Няма патрэбы ўваходзіць тут у нутро савецка-расейскага каляніялізму, асабліва савецкіх «вольных выбараў». Гэтыя бакі падсавецкага жыцьця добра ведамыя вольнаму сьвету, тым больш нашым суродзічам. Мы толькі зьвернем увагу на прыведзеныя вытычныя савецкай «Дэклярацыі» й іхны адбітак у падсавецкай рэчаіснасьці.

1) **За ажыцьцяўленьне вялікіх мэтаў і прынцыпаў, абвешчаных у Статуце Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў.** Тут сам Хрушчоў дапамог нам выясьніць сутнасьць справы, а пайменна, калі хто «надумаецца ажыцьцявіць гэтыя вялікія мэты й прынцыпы ў Савецкім Саюзе, дык ён атрымае ў морду». Сказана «вобразна» й пераканаўча ды выказана сьвятая падсавецкая рэчаіснасьць. Прымяніць мэты й прынцыпы Статуту Задзіночаных Нацыяў у Савецкім Саюзе, гэта — даць палітычную, сацыяльную й нацыянальную вольнасьць і свабоду падсавецкім народам, гэта — зьнішчыць у Савецкім Саюзе сацыяльнае рабства й нацыянальнае прыгнечаньне, гэта — прыцягнуць да крымінальнае адказнасьці хрушчовых, падгорных і мазуравых.

2) **Трэба паважаць правы ўсіх бяз выключэньня народаў у іхных патрабаваньнях роўнасьці, справядлівасьці й незалежнасьці.** Ня сьцёрся з памяці той 1956 год, калі вугорскі народ наважыўся патрабаваць гэтае роўнасьці, справядлівасьці й незалежнасьці. Што ён атрымаў? Разьлітую кроў савецкімі танкамі на вуліцах Будапэшту й другіх гарадоў Вугоршчыны, запоўненыя турмы вугорскімі патрыётамі, тысячы ўцекачоў з свайго роднага краю. Гэта толькі быў нядаўны маленькі й пры тым яскравы эпізод разьюшанага маскоўскага імпэрыялізму й каляніялізму. Яго папярэдзілі падзеі 1918-1921 гадоў, калі пад расейскім ботам палі маладыя нацыянальныя рэспублікі шматлікіх народаў царскае Расеі, падзеі 1939-1940 гадоў, калі чырвоная Расея прыступіла да «зьбіраньня» «рускіх земляў» у вайне з Польшчай, у Прыбалтыцы, Фінляндыі й Бесарабіі, падзеі 1945 й асабліва 1948-1949 гадоў, калі тая-ж самая чырвоная Расея накінулася драпежнікам на народы цэнтральнае Эўропы, зьнішчаючы ня толькі палітычную незалежнасьць гэтых народаў, але й ўсё тое, што дыхала нацыянальным жыцьцём. Нарэшце, зьдзей-

(Заканчэньне на 3-яй бач.)

# *ВАЛАДАРКА*

**(Па сьлядох Слова аб Ігаравым паходзе)**

(Працяг з папярэдняга нумару)

*

«Ня толькі Сула не цячэ больш серабрыстымі пералівамі да гораду Пераяслаўля, але і Дзьвіна ўжо балотам пацякла к тым грозным Палачанам пад воклік паганаў».

Ня даўшы коням навет астыгнуць, а Ліцьве належна прамачыць свае горлы заморскімі вінамі, павёў Валадарка сваю рознашэрстную ватагу на апошні і — як яму здавалася — вырашальны бой з Усяславам Васількавічам і ягонымі смаленскімі швагрaмі й паплечнікамі.

Між іншага, некаторыя людзі кажуць, што ў часе, калі Валадарка выяжджаў сабе, як вялікі пан, праз полацкія вароты, (не пакінуўшы за сабой, як пасьля аказалася, нічога, апрача сумлеўнага сьледу ў памяці Палачанаў), зь ім здарыўся ня вельмі, быццам, як на пачатак ваеннага паходу, прыемны выпадак: ягоны конь пад ім спатыкнуўся.

Валадарка, якога дагэтуль сам лёс на сваіх руках насіў, ня мог, зразумела, паверыць цяпер сваім вачом, іранічна заўважыўшы:

«Ня добры, кажуць, знак гэта. Рымлянін на маім месцы напэўна вярнуўся-б да хаты, але — мой Божа — хто сяньня верыць у такія забабоны?»

Не пасьпеў ён, аднак, яшчэ скончыць гэтыя — як на свой час — мудрыя словы, а ўжо здарыўся яму й другі ня менш дзівугодны выпадак: дарогу яму перабег чорны кот.

«І ты, Брут?» — ускрыкнуў, ужо надобра раззлаваўшыся Валадарка. — «Калі-б шчэ — крый Божа! — і бабу сустрэць з пустымі вёдрамі, дык можна было-б ужо цалком зрабіцца забабонным».

Аб бабе з пустымі вёдрамі ніякі летапіс не ўспамінае. Навет і тыя людзі, што любяць пароцца сярод векавога пылу згніўшых і нікому непатрэбных пэргамінаў і любяць баіць розныя гісторыі, нічога аб гэтым сказаць ня ўмеюць і маўчаць, як вады ў рот набраўшы. Маўчаньне, аднак, гэтае ўжо ня шмат магло памагчы Валадарку. Яму наагул — як выражаюцца злосныя гісторыкі — ужо ніякая сьвіня памагчы не магла, у што я асабіста сумляваюся і на гэтым месцы даволі моцна пратэстую.

☆

Калі Валадарка, з надгрызеным гумарам, але ўсё шчэ з непахіснай верай, падыходзіў урэшце пад Віцебск, дарогу яму, як і можна было прадчуваць, перарэзала раптам Дзьвіна, чароўная тут і няпрыступная, як прыгожая жанчына.

Аб харасьцьве гэтай гордай красуні я ўспомніў тут, зразумела, толькі так паміж іншым, бо, як усім добра ведама, ня тое прыгожа, што прыгожа, а што каму падабаецца. Валадарку-ж даволі было адным толькі вокам кінуць на ўвесь яе непаўторны блеск, каб адразу пабачыць тыя паважныя цені, з увагі на якія яму бадай ці магло тут што спадабацца.

Перад усім — увесь проціўлежны бераг быў да немагчымасьці наежаны моцна збройным народам, які лесам узьнятых дзідаў, шчытоў і мячоў закрываў сабой усе багацьці задзьвінскага — трэба думаць — не абыякавага пэйзажу.

Да гэтага — узброеныя па зубы тыя людзі, хаця ня крычалі яшчэ ды ня лаяліся, але ўжо і вымоўным маўчаньнем сваім ды пасьвяточна вычышчанай зброяй (як быццам прышлі на вясельле якое або ў магілу) давалі даволі моцна зразумець, што яны тут не ад парады, і што — сваёй дарогай — на суха і бяз бою прайсьці гэтым вузенькім бродам — шкада і гаварыць.

Адзінай — такім чынам — людзкой дарогай на той негасьцінны, як відаць, бераг была, відаць, толькі дарога праз мост, але маста якраз, як на злосьць, ня было тут ні ценю ні сьледу.

«Я так і ведаў, што сягоньня нешта ды здарыцца», — мэлянхалічным голасам сказаў Валадарка, які меў паважныя прычыны быць расчарованым. Ён прыйшоў аж сюды, на край гэтага сьвету, каб тут — пасуседзку і бязь хітрыкаў — памерыцца з праціўнікам у вадкрытым баі сваёй мужнасьцяй і сілай сваіх мячоў, і — або здабыць сабе перамогу, як здабываюць адважныя, або памерці ў змаганьні, як паміраюць адважныя. Дзіўнай-жа іроніяй лёсу, яго ня толькі ніхто ня сустрэў на гэтым баку на чыстым ды роўным полі, але ніхто — як выглядала — ня зьбіраўся прасіць і на той, як быццам ані ў самога Усяслава Васількавіча ані ў ягоных швагроў ня было ўжо больш веры ані ў яго ані ў сябе.

«Між іншага», — стукнуўшы сабе ў чало, спытаўся Валадарка — «што гэта за дзень сягоньня — няўжо-ж праклятая пятніца?»

Дзікі, аднак, крык, што раптоўна заліўшы сабой раку й рэхам ударыўшыся ў проціўлежны бераг і ягоных па зубы ўзброеных абаронцаў, заглушыў усё навакол, не даючы на'т магчымасьці выясьніць гэтага цікавага і на часе пытаньня.

Літва, не чакаючы на ніякія сыгналы да бою, кідалася пад крык у ваду, уявіўшы сабе відавочна, што ворагаў на тым баку ня больш, як яны бачаць, і што раку — такім чынам — удасца ўзяць пры першым-жа націску, адным — можна сказаць — крыкам.

І калі на баявы іхны крык ім адказалі такім-жа крыкам і хмарай завойстраных стрэл, бой за раку і за брод гэткім чынам пачаўся і — трэба думаць — не на жарты.

Сьмяротнае змаганьне і з гэтай разбрыканай вадой і з тымі насупраць, зь якімі — як гэта ня дзіўна — яны ня былі перад тым асабіста навет знаёмымі, — трэба было, аднак, пачынаць яшчэ не адзін раз. Паветра зьвінела ад стрэл, рака каламуцілася, а людзі — навет не дакрануўшыся таго берагу ні нагой ні мячом — гінулі ў бруднай і крывавай вадзе дзіўнай і таямнічай сьмерцяй, як быццам зямля západалася некуды пад іхнымі нагамі.

Калі ўрэшце сам Валадарка пад'ехаў на сваім стройным кані на высокі абрыў, каб сваімі вачыма пабачыць, што той вораг урэшце сабе думае, ягоная асоба, як і трэба было спа-

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

**прынятая на канфэрэнцыі прадстаўнікоў нацыянальных арганізацыяў Задзіночаных Штатаў Амэрыкі 19-га верасьня 1960 г. у Вашынгтоне**

1. У крытычныя дні напружаньня ў сьвеце і рэвалюцыйных зьменаў Амэрыканскія Нацыянальныя Групы, якія ўнесьлі вялікі ўклад у фармаваньне, рост і разьвіцьцё Задзіночаных Штатаў, маюць вялікую вагу ў узмацненьні амэрыканскага прэсьціжу ў вольным сьвеце.

2. У змаганьні зь інтэрнацыянальным камунізмам шматлікія Нацыянальныя Групы ў Амэрыцы твораць натуральную лучнасьць з вонкавым сьветам і павінны адыгрываць шмат большую ролю, як амбасадары добрае волі, чымся яны рабілі да гэтага часу.

3. Уплывы розных Нацыянальных Групаў, калі іхны патэнцыял, веда й здольнасьці будуць поўнасьцю выкарыстаныя як складовая частка сусьветнай амэрыканскай стратэгіі за справядлівы мір і свабоду ўсіх народаў, могуць адыграць у будучыні вырашальную ролю.

4. Савецкая Расея ад пачатку свайго існаваньня поўнасьцю выкарыстоўвала нацыянальныя праблемы ў праводжаньні свае палітыкі. Спэцыяльна падрыхтаваныя іншанацыянальныя агенты адыгрывалі няраз галоўную ролю ў паняволеньні або заваёўваньні іншых народаў на працягу апошніх 15-ёх гадоў. Дзейнасьць цёмнае сілы й гвалту мы бачым сяньня ўсюды, якая павінна быць спыненая дынамічнай контрдзейнасьцяй Амэрыканцаў, што маюць сувязі з заграніцай, у чым яны становяцца асноўнай сілай.

5. Канфэрэнцыя прапануе новай Адміністрацыі стварыць спэцыяльны Дэпартамант для беспасярэдняй сувязі з арганізацыямі Нацыянальных Групаў з мэтай дапамогі ў пашырэньні свабоды на цэлым сьвеце, як гэта прапанаваў віцэ-прэзыдэнт ЗША Рычард Ніксан у сьаёй акцэптуючай намінацыю прамове.

Гэтая ўстанова павінна таксама займацца дапамогай у палагоджваньні мясцовых спэцыфічных праблемаў паасобных Нацыянальных Групаў, каб такім чынам даць ім лепшую магчымасьць супрацоўніцтва для лепшай будучыні нашае краіны.

6. Пацьвярджаючы нашую нязломную пастанову змагацца, пакуль усе ахвяры крывавага камунізму ня будуць вольныя, канфэрэнцыя ўважае, што асобы Ніксана й Лёджа найлепш забясьпечваюць надзеі, што гэтыя пастановы будуць выкананыя і што іхнае дасьветчаньне, перакананьне, здольнасьці і ўяўленьне мусяць быць выкарыстаныя для кіраўніцтва нашае краіны і для вядзеньня змаганьня за свабоду ў цэлым сьвеце ў будучыні.

Вашынгтон, 19-га верасьня 1960 г.

## З Канфэрэнцыі Прадстаўнікоў Амэрыканскіх Нацыянальных Групаў у Вашынгтоне

У № 39 «Бацькаўшчыны» была зьмешчаная справаздача з Канфэрэнцыі прадстаўнікоў Амэрыканскіх Нацыянальных Групаў у Вашынгтоне 19-га верасьня сёлета. У дадатак да гэнае справаздачы зьмяшчаем гэтта фотаздымку з прыняцьця гэтае Групы віцэ-прэзыдэнтам ЗША Рычардам Ніксанам і Рэзалюцыю, якая была прынятая Канфэрэнцыяй.



**Віцэ-прэзыдэнт Рычард Ніксан, налева тры асобы, прозьвішчы якіх няведамыя, направа: Пауль Саар — прадстаўнік ад Эстонцаў, Др. Тыбор Бэбэк — прадстаўнік ад Вугорцаў, Кастусь Мерляк — прадстаўнік ад Беларусаў і Вэрнон Цаліян — прадстаўнік ад Армянаў.**

# Сьвежае, а так старое

**(Заканчэньне з папярэдняга нумару)**

Падрыхтоўка да вайны Масквы з Ноўгарадам вызначаецца асьцярожнасьцю з разьлікам, каб агульная апінія апрабавала факт, што Ноўгарад змусіў Івана III-га да ваенных дзеяньняў. Іван, дзеля апрабацыі, склікае нарады, у якіх бяруць удзел, апрача яго братоў, ярархаў маскоўскае мітраполіі, падпарадкаваных, васальных князёў, навет баярства. На гэтых нарадах не бярэцца пад увагу тое, што Ноўгарад здэцыдаваўся свайго кандыдата на архіяпіскапа пасьлаць на пастаўленьне ў Маскву. Аднагалосна прыймаюцца пастановы, што вайна з Ноўгарадам мае насіць характар рэлігійны, а не палітычна-каляніяльны. Мітрапаліт Філіп багаслаўляе крыжовы паход і заклікае ўсіх узяць у ім удзел.

Каб зразумець хаўрус маскоўскага князя з маскоўскай праваслаўнай царквой, дык неабходна зрабіць невялікі экскурс у мінуўшчыну. Асновапаложнік мангола-татарскае імпэрыі, Чынгіс-Хан казаў, што «пакараць мячом народы й заваёўваць краіны ня ёсьць зарукай у стварэньні імпэрыі. Таму трэба знаходзіць сяродкі, якія дапамогуць утрымаць людзей у паслухмянасьці. Найлепшым дзейнікам ёсьць царква, якой трэба апекавацца.» Таму нашчадкі Чынгіс-Хана імкнуліся да таго, каб маскоўская царква ня выступала супраць татарскіх ханаў, а ў цэрквах маліліся за здароўе як ханаў так і мурзаў, каб пераконвала людзей, што падымаць паўстаньні нельга, бо гэта грэх. За гэты хаўрус царкоўнікі атрымоўвалі прывілеі й маскоўскі мітрапаліт стаўся адным з наймагутнейшых фэўдалаў, а маскоўская царква здабыла такі імунітэт, што каталіцкая царква зайзросьціла. Для прыкладу прыводжу адзін з татарскіх ярлыкоў.[1])

Цар Залатой Арды Азбек меў магчымасьць пераканацца, што прывілеі наданыя маскоўскай царкве аплачваюцца. Вось у 1327 г. выбухла ўсеагульнае народнае паўстаньне, якое ачоліў князь Цьверскі, Аляксандар сын Міхала. Для здушэньня паўстаньня выступілі маскоўскі мітрапаліт Феагност з сваім духоўным мячом-анафэмай і маскоўскі князь зь сьвецкім. Так паўстаньне ў моры крыві было здушанае. Князь Аляксандар Цьверскі пасьпяшыў шукаць дапамогі ў Пскове. Псковічы чула прыймаюць «крест к нему целоваше посадіша его на княжаньне». «Духоўны айцец», даведаўшыся аб спачуваньні псковічаў, накладае на ўсіх жыхароў Пскова праклянцьце й адлучае іх ад Праваслаўнае Царквы. Якая была рэакцыя псковічаў? Прыводжу выпіску з пскоўскага летапісу.[2]

Канфлікт Цьверы з Масквой заставаўся ня вырашаны. Жыхары Цьверу добра памяталі 1327 год, а таму мітрапаліт маскоўскі Аляксей у 1368 г. запрашае кн. Міхала, Аляксандравага сына, у Маскву для прымірэньня. Кн. Міхал паверыў абяцанкам, але калі толькі прыехаў у Маскву, дык баяры маскоўскага князя Дзьмітрыя схапілі кн. Міхала, а яго баяраў перабілі. Лёс ня судзіў яму гэтым разам зьгінуць і ён уцякае зь вязьніцы ды бяжыць у Цьвер, каб расказаць там, што сталася зь цьверскімі баярамі. Зразумела, што кажны жыхар абурыўся, загарэўся памсьціць маскалём ды паколькі сілаў было не дастаткова, каб выступіць у паход, дык кн. Міхал адправіўся ў Літву да кн. Альгерда на помач. Маскоўскі мітрапаліт Аляксей сьпяшыць з дапамогай «юному князю Дмітрію» і на цьвершчыну накладаецца праклянцьце, а таксама ўсе тыя, што спачуваюць і думаюць дапамагаць кн. Міхалу, дык адлучаюцца ад Праваслаўнае Царквы.

Аднак, не заўсёды «духоўны меч» з посьпехам можна было выцягваць з ножнаў. Вось адзін з характэрных прыкладаў. «Мятежнікам» быў ня цьверскі князь, але Уладыка Іван, Архіяпіскап Ноўгараду. Прычынаю «мятежа» былі г. зв. «месячныя суды». Устанавіўся абычай, што кажныя чатыры гады на адзін месяц прыяжджаў маскоўскі мітрапаліт у Ноўгарад і разглядаў апэляцыі. Трэба меркаваць, што прыезд маскоўскага мітрапаліта ня быў дзеля разгляду апэляцыяў, але каб пажывіцца грашыма, і наколькі вымогі былі вялікія, сьветчыць факт, што ў 1353 годзе архіяпіскап Майсей змушаны быў паслаць адумысловае пасольства да патрыярха й імпэратара ў Канстантынопаль з просьбаю спыніць «пріходящчіх с насіліем от мітрополіта». Прайшлі гады, магчыма вымогі на пэўны час зьменшыліся, але прыблізна паміж 1380 г. а 1390 г. яны праявіліся ў такім барбарскім характары, што архіяпіскап Іван ня вытрымаў і з Ноўгарадцамі разам сабраліся на веча, дык вырашылі напісаць грамату, што ніхто ня будзе падаваць апэляцыі маскоўскаму мітрапаліту, калі ён прыедзе ў Ноўгарад, каб гэтым самым збавіцца ад яго візытаў. Грамату напісалі, прысяглі, крыж пацалавалі ўсе, пячаці прывесілі й у «ларь» палажылі. У 1391 г. прыехаў міт. Кіпрыян. Ноўгарадцы «стрэте его с кресты, с ігумены, с попы і с многімі крестіяны у святого Спаса на Ільіне уліце», але ніхто не падаў апэляцыю, бо ноўгарадцы свой апэляцыйны суд выбралі па 2-ух баяраў, па 2-ух ад «жытевых» людзей і з старшынствам архп. Іванам. Мітрапаліт Кіпрыян пачаў угаварваць Ноўгарадцаў, каб «грамату подраті», але яму адказвалі, што Ноўгарад грамату запячатаў сваімі пячацямі, а гэта значыць, што душу сваю запячатаў і Кіпрыян «поеха із Новгорода, а на Новгород веліко нелюбіе держа».

Маскоўскі князь Васілій Дмітреевіч паслаў ганцоў у Ноўгарад з просьбаю й пагрозай. Ноўгарадцы адказалі, што ня могуць парваць грамату, бо прысягнулі й парушаць прысягу, дык гэта значыць даканаць вялікі грэх перад Богам. Кіпрыян адказаў, што грэх «с вас мітрополіт снімаеть». Ноўгарадцы на свой лад разважалі, і калі ў 1395 г. зьявіўся ізноў Кіпрыян з патрыяршым паслом і «запросі суда, і новгородцы суда ему не даша, і он пребыл весну всю в Новгороде і до Петрова говеньня». Тады ў дапамогу «духоўнаму мячу» прыйшоў меч сьвецкі маскоўскага князя. Былі высланыя войскі, якія захапілі Таражок з воласьцямі. Волок Ламскі й Волагду з воласьцямі ды пачалі апустошваць мячом і агнём іншыя ноўгарадзкія землі. У Заволочье й Задзьвіньне накіраваныя былі вайсковыя аддзелы, якія пачалі мясцовае жыхарства насільна прыводзіць да прысягі, што яны пераходзяць у падданства маскоўскаму князю. Бачачы, што дзеіцца навакол, дык Ноўгарад вырашыў прасіць ад імя Ноўгараду «і от своіх мужіі вольных нелюбье отложіть, а крестіян бы кровопролітье не учінілося». Так змушаны быў Ноўгарад падпарадкавацца маскоўскаму мітрапаліту, які за «месячны суд» у сярэднім зьбіраў у 200 000 руб. пры пераліку на вартасьць рубля 1910 году.

Уважаю, што было-б праступствам, калі-б прайшоў моўчкі, не сказаўшы нічога аб дзейнасьці «духоўнага мяча» ў

**(Заканчэньне на 4-ай бачыне)**

# Апошні прыклад савецкай дэмагогіі

**(Заканчэньне з 2-ой бач.)**

сьнілася запаветная мара расейскіх славянафілаў стварэньня вялікае Славяніі пад наглядам і кіраўніцтвам Расеі. Ня сьцерці з твару зямлі й самыя жудасныя мэтады народазабойства, гэта — плянавы й паступовы нацыянальны гэнуцыд, які выліўся ў 1943-1944 гадох навет у масавае фізычнае народазабойства на Каўказе, Крыме й Прыкасьпіі, а таксама ў Прыбалтыцы, на Беларусі й Украіне. Што значыць гэтае змаганьне з «буржуазным нацыяналізмам» нерасейскіх народаў, якое прынесла для нерасейскіх народаў нязьлічоныя фізычныя ахвяры, а самае галоўнае — зьнішчаньне іхнае культуры, гісторыі, мовы й г. д.

3) **Кажная краіна й кажны народ маюць неад'емнае й поўнае права на самастойнае існаваньне.** Чаму з гэтага прынцыпу абавязкова маюць быць выключаныя падсавецкія народы? Мабыць яны не дарасьлі да самастойнага самакіраваньня. Масква, як ведама, паслугоўваецца й гэтым аргумантам, але гэта яе прыватная справа.

Ува ўсім гэтым заключаецца цынізм і дэмагогія савецкай «Дэкларацыі аб прызнаньні незалежнасьці каляніяльным краінам і народам», якая ўзьнікла пад непасярэднім узьдзеяньнем савецкае паразы ў Конга. Незалежнасьць народаў для Масквы, гэта першапачатковы палітычны трык да апанаваньня сьветам. Пасьля гэтага — бывай незалежнасьць, якая становіцца «буржуазнай небясьпекай», а таму... прыклад падсавецкіх народаў і хрушчоўскае «б'ём у морду».

**П. Залужны**

дзявацца, ня была нікім не заўважана. Ягоная высокая, бліскучая фігура, якую мы сягоньня праз імглу многіх вякоў і нешматлікіх летапісаў даволі мутна сабе ўяўляем, — тады — асьвечаная апошнімі праменьнямі заходзячага сонца — была на фоне цёмнасіняга неба відавочнай зблізка і здалёку. І, як калісь на Макара шышкі, так цяпер паляцелі на Валадарку ўсе, як-бы згаварыўшыся, варожыя стрэлы.

І хаця Валадарка ня раз ужо ў жыцьці з пагардай глядзеў не адной сьмерці ў вочы (бывала, калі ў часе гарачай бітвы на яго нападала адразу двух ворагаў, ён з адным біўся на мячы, другога трымаючы за палу, каб той зарана ня ўцёк), яму ня было цяпер прыемна адбівацца сваім шчытом ад варожых стрэл, як ад назойлівых мух. Ён быў-бы навет да глыбіні душы і сэрца пакрыўджаны і агорчаны, калі-б давялося яму цяпер, як вароне на суку, быць падстрэленым варожай стралой і згінуць бясслаўнай сьмерцяй на вачох усяго войска, як бясслаўна й марна гінулі на ягоных вачох ягоныя найадважнейшыя дружыньнікі ў гэтай бруднай —ператворанай на цырковую арэну — крывавай рацэ.

І калі ён так стаяў і ня ведаў, што далей рабіць, і калі ўжо здавалася, што бязьлітасны лёс не працягне яму брацкай рукі дапамогі ні маральна ні матар'яльна, — сонца, якое дагэтуль, павісшы над краем лесу даволі апатычна, як быццам, было яму цалком ўсёроўна: сьвяціць далей, ці не, — урэшце пераняло ініцыятыву ў свае рукі, і, каб скончыць неяк з гэтым дурацкім таўчэньнем вады ў ступе, нырнула з галавой за сосны й выключыла сьвятло[5]).

☆

Шкада, што ў нашых прапрадзедаў ня было прыгожага звычаю гаварыць перад вялікімі бітвамі вялікіх і прыгожых прамоваў. Бо цяпер якраз, калі вось змрок спускаўся на зямлю й два варожыя бакі, разыйшоўшыся й ня зьнімаючы зброі, заначавалі тут-жа пад голым — можна сказаць — небам, — Валадарка меў-бы прыгоду, сабраўшы вакол сябе сваю Літву, паказаць свае аратарскія здольнасьці.

«Мае дзяцюкі, Ліцьвякі і ты, мая верная дружына! Сягоньня, як вам ведама, трусьлівы вораг ня меў адвагі сустрэцца з намі ў вадкрытым полі, як гэта робяць мужныя людзі, але схаваўшыся за прыбярэжныя карчы, прабаваў сабе трусьліва і бясьпечна лавіць рыбку ў мутнай вадзе. Трэба, аднак, думаць і ў гэта я моцна веру, што заўтра напэўна, сабраўшы ўсе свае сілы, яны набяруцца ўрэшце адвагі й выступяць супроць нас у чыстым полі, даючы нам даўначаканую нагоду перажыць намі вялікі й гарачы бой. З увагі на гэта добра цяпер слухайце, што я вам далей скажу. Праўдзівым нашым ворагам на вайне ня ёсьць той вораг, што зь мячом у руках стаіць перад намі, а той, што сядзіць ў нутры нас і які, як вам магчыма ведама, называецца дурацкім страхам. Вось-жа, запамятайце сабе добра, што калі ў заўтрашняй біцьве на вас нападзе гэты страх і вам захочацца па дурнаце сваёй уцякаць, дык помніце адно: — ніколі не ўцякайце ўзад, а заўсёды й толькі ўперад. Бо падчас кажнае бітвы — малой ці вялікай — усе — з гэтага і з таго боку — баяцца аднолькава, адзіная між імі розьніца гэта толькі кірунак, у якім яны ўцякаюць. У гэтым якраз — у гэтым кірунку хто куды ўцякае — і крыецца якраз той вялікі сакрэт усіх вялікіх бітваў і вялікіх перамогаў. Вось-жа, калі вы добра сабе запішаце на носе, што я вам тут сказаў, і калі мая навука заўтра ў лес ня пойдзе, — дык можаце цяпер спаць сабе спакойна. Бо, як вам ведама, няма нічога лепшага для нашага брата, як перад добрай бітвай выспацца на славу».

Калі-б Валадарка запраўды сказаў такую ці іншую прамову, яму прыемна было-б пачуць адзін і той самы адказ:

«Дзе твая, княжа, галава ляжа, там і мы свае зложым».

☆

Бачылі вы калі-небудзь ваенны абоз напярэдадні вялікае бітвы?

Перажывалі вы калі-небудзь гэтую таямнічую й амаль неперадавальную атмасфэру трывожна-чароўнага чаканьня нечага няведамага, калі гэта вочы вашыя неяк дзіўна загараюцца, калі гэта сэрцы вашыя пад панцырамі ці пад сарочкамі пачынаюць біцца прысьпешаным тэмпам, і ўсе вакол разам з вамі нараз адчуваюць, што жыцьцё, зь якім заўтра ўжо можа прыдзецца разьвітацца, — зьяўляецца ўсё-ж нечым запраўды дарагім і нязвычайна прыгожым.

Калі ўжо ўвесь абоз ляжаў ціха, каб ня будзіць ліха, на цёмнасінім небе загарэліся мільёны зорак, ціхая летняя ноч выглядала быццам фантастычная казка. Зоркі блішчэлі на небе, як рассыпаны залаты мак, як блішчэць мабыць будуць калісьці зрэнкі дзяцей у ночы, калі пры смалістай лучыне дзед ім будзе баіць казкі аб князю Валадарку.

☆

Цяпер, калі да першых пятухоў аставалася яшчэ крыху вольнага часу, мне ўрэшце надараецца нагода расказаць адну рэч, якую я чуў ад чалавека, хаця й недалёкага, але блізка стоючага да розных спраў ня з гэтага сьвету.

Вось-жа, аднойчы адзін малады студэнт мэдыцыны здаваў на палітэхніцы экзамін зь гісторыі.

— У каторым годзе — пытае прафэсар — радзіўся ведамы Валадарка Глебавіч?

— Ах, мой Божа, — адказаў студэнт, — учора яшчэ я гэта вельмі добра ведаў, але цяпер, на жаль, не магу ўжо прыпомніць. Даруйце, спадару прафэсар, але я зусім забыўся.

— Якая шкода! — ускрыкнуў прафэсар, — і якая вялікая страта для гістарычнай навукі! Адзіны чалавек на сьвеце, які яшчэ ўчора ведаў дакладную дату нараджэньня вялікага Валадаркі, і той — што за галава! — узяў і забыўся...

**(Працяг будзе)**

**Часлаў Будзька**

---

[5]) Іпацкі летапіс: В лето 6675 (1167). Володарь пойде Вітебьску на Давыда і на Всеслава, і прышэд ста на рэцы, і начаша ся біті о рэку. Давыд жэ тем не да ему полку, занежэ ждашэ брата своего Романа с смолняны.

# Зь беларускага жыцьця

### ГАДАВЫ СХОД ЗБМА, АДДЗЕЛУ НЬЮ ЁРК

У будынку ІВКА ў Брукліне 7 кастрычніка адбыўся гадавы сход ньюёрскага аддзелу Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Амэрыцы.

Сход адчыніў кіраўнік Аддзелу сп. Аўген Лысюк, вітаючы прысутных гасьцей і прадстаўнікоў арганізацыяў. Вітаючы сход моладзі, Уладыка Васіль зьвярнуў увагу на моладзь, якая адыграла вялікую ролю ў гісторыі беларускага народу, прыводзячы ў прыклад сьв. Эўфрасіню Полацкую, якая ад 14-ёх год жыцьця ўжо была ўважаная за вялікую дабрадзейку, Кастуся Каліноўскага — змагара за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі, і Максіма Багдановіча — вялікага нацыянальнага паэту, ды і іншых слаўных беларускіх патрыётаў. Адзначаючы спрадвечны канфлікт між старэйшымі й моладзьдзю, Уладыка адцеміў, што калі моладзь ня вызначаецца прагрэсыўнасьцяй, дык у ніякім выпадку не павінна адставаць ад сваіх бацькоў, якія рэпрэзэнтуюць кансэрватыўны пагляд на сучасныя падзеі.

Старшыня Галоўнае Ўправы БАЗА сп К. Мерляк, вітаючы сход моладзі, гаварыў аб патрэбе лепшай каардынацыі грамадзка-палітычнай дзейнасьці зь Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем ды заклікаў да больш актыўнага ўдзелу моладзі ўва ўсіх дзялянках арганізаванага жыцьця Беларусаў у Амэрыцы.

На старшыню сходу быў выбраны сп. А. Несьцяровіч, на сакратара сп. В. Станкевіч.

Зь дзейнасьці ўступаючай управы, якая складалася з А. Лысюка, А. Каваля, С. Целеш, В. Станкевіча й Олі Мельяновіч, зрабіў справаздачу старшыня Аўген Лысюк. Трэба адцеміць, што справаздача была вельмі скромная, бо шмат якія выкананыя працы старшыня прапусьціў, якія паказалі-б запраўдны стан Згуртаваньня і як вялікую дзейнасьць прарабіла моладзь у Нью Ёрку. Із справаздачы выявілася, што моладзь праводзіла зборкі кажную пятніцу ў памяшчэньні ІВКА, дзе праводзіліся спартовыя гульні, рэпэтыцыі народных танцаў і рэфэраты. Сябры Згуртаваньня прыймалі таксама актыўны ўдзел у дэманстрацыях, парадах і сьвяткаваньнях, а таксама рабілі выступленьні ў міжнародных імпрэзах.

Кіраўнік Аддзелу ў канцы падзякаваў усім, хто дапамагаў яму ў працы, асабліва дзякаваў сяброўцы Ніне Каваль і ейным двум братом, выражаючы надзею, што яны й надалей будуць актыўна працаваць у Згуртаваньні.

Грашовую справаздачу зрабіла сп-ня Ольга Мельяновіч, зь якое таксама выявілася, што дзейнасьць Згуртаваньня была актыўнай.

Сп. В. Паланевіч прачытаў пратакол Рэвізыйнае Камісіі й запрапанаваў даць абсалюторыюм з падзякаю ўступаючай управе, што пасьля ажыўленай дыскусіі было сходам пастаноўлена.

Новае кіраўніцтва Аддзелу было выбранае ў наступным складзе: кіраўнік Васіль Мельяновіч, заступнік кіраўніка Кастусь Верабей, сакратар Міхась Казьлякоўскі, скарбнік Павал Алексы, сябра ўправы Уладзімер Тарашкевіч. У Рэвізійную Камісію былі выбраныя В. Яновіч, М. Заморскі і А. Акановіч.

У пляне працы пастаноўлена й надалей весьці танцавальны гурток, прыняць актыўны ўдзел у зарганізаваньні сталага хору, прыймаць больш актыўны ўдзел у імпрэзах агульнага характару, ладжаных Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем і Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва, а таксама запляванана цэлы рад новых і вельмі цікавых праектаў.

Сход быў праведзены вельмі спраўна сп. Несьцяровічам, а моладзь наагул аказалася на ўзроўні свайго заданьня. Справаздачы й выступленьні таксама былі на ўзроўні, што незаўсёды можна бачыць на сходах іншых арганізацыяў. Сход закончыўся адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

**Д. Маяк**

### У НЬЮЁРСКІМ АДДЗЕЛЕ ЗБМ

Ньюёрскі Аддзел Згуртаваньня Беларускай Моладзі быў 10 кастрычніка сёлета запрошаны прыняць удзел у пляніваньні й правядзеньні гадавога маскавага балю ІВКА. На гэтым паседжаньні, апрача нашага аддзелу, прымала таксама ўдзел 8 іншых нацыянальных клюбаў моладзі, пераважна дзявочых. Аддзел ЗБМ быў на паседжаньні рэпрэзэнтаваны сакратаром Аддзелу Міхасём Казьлякоўскім. Такія балі адбываюцца кажны год перад распачацьцем збору грошаў на ўтрыманьне будынку й дзейнасьць ІВКА. На год 1960/61 кіраўніцтва ІВКА пастанавіла сабраць 85.000 даляраў.

Сакратар Ньюёрскага Аддзелу ЗБМ 10. 10. 60 меў нараду із старшынём Галоўнай Управы БАЗА ў справе арганізацыі інфармацыйнага вечару ў сувязі з прэзыдэнцкімі выбарамі ў ЗША. Такі інфармацыйны вечар упяршыню ладзіць ЗБМ і БАЗА. які адбудзецца 15. 10. 60 ў памешчаньні Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў Брукліне. Праграма вечару будзе складацца з паказу фільмаў зь дзейнасьці віцэ-прэзыдэнта Рычарда Ніксана й сэнатара Джона Кэнэды (кандыдатаў на прэзыдэнта), прамоваў прадстаўнікоў Рэспубліканскай і Дэмакратычнай партыяў, дыскусіяў і пачастунку кавай і печывам.

Пачынаючы з 7. 10. 1960, Ньюёрскі Аддзел ЗБМ пачаў рэгулярна праводзіць у кажную пятніцу свае сяброўскія зборкі ў будынку ІВКА (30-ая авэню ў Брукліне). Зборкі пачынаюцца а 7-ай гадз. вечара.

**Міхась Паляшук**

# Мазураў — рэха Хрушчова

«Карабель міру» — так савецкая прапаганда назвала «Балтыку», на якой Хрушчоў плыў у Нью Ёрк з гэтак званай «місіяй добрай волі». Савецкая прапаганда таксама патэтычна заяўляла, што думкі й падзеі ўсяго сьвету «прыкаваныя да «Балтыкі».

Усё гэта была няпраўда: Хрушчоў і ягоная супалка на «Балтыцы» ня мелі добрай волі да зьменшаньня міжнароднага напружаньня й да патрэбнага ў такім палажэньні разумнага кампрамісу. Грамадзтва вольнага сьвету, за выняткам жменькі наіўных, ня верыла ў «місію добрай волі» Хрушчова й супалкі. Зашмат было горкіх дасьветчаньняў і расчараваньняў, зашмат Хрушчоў ілгаў, каб можна было яму паверыць.

Неўзабаве рэчаіснасьць паказала, што гэты пэсымізм быў зусім слушным. Гвалтоўныя, грубыя, а часта вульгарныя выказваньні Хрушчова на 15-й сэсіі Генэральнай Асамблеі АЗН у ніякім выпадку нельга разглядаць, як выяўленьне добрай волі. Людзі добрай волі не абражаюць сваіх партнэраў і ня стукаюць кулакамі па стале, як гэта рабілі Хрушчоў і ягоныя сатэліты.

Беларусам асабліва прыкра было чытаць выступленьне першага сакратара ЦК КПБ Мазурава на сэсіі Генэральнай Асамблеі.

Хрушчоў выявіў сябе неблагім камэдыянтам. Разыграваючы камэдыю «сувэрэннасьці» нацыянальных рэспублік СССР, ён загадаў кіраўніку ўкраінскай дэлегацыі Підгорнаму гаварыць паукраінску, а Мазураву — каб ня вельмі шмат было «сувэрэннасьці» — парасейску.

**Гэта яшчэ не такая бяда. Горшае тое,** што Мазураў сказаў. Ягонае выступленьне на 15-ай сэсіі Генэральнай Асамблеі было толькі рэхам папярэдніх выступленьняў Хрушчова.

Мазураў ня чырванеючы й не заікаючыся, прадставіўся Генэральнай Асамблеі як прадстаўнік «сувэрэннай беларускай дзяржавы», якая ў выніку кастрычніцкага перавароту, нібыта, атрымала сваю «сувэрэннасьць і незалежнасьць».

Мазураў не бянтэжыўся тым, што сярод ягоных слухачоў было шмат людзей, якія ведалі, што ён бессаромна ілжэ, што якраз верхаводы кастрычніцкага перавароту брутальнай сілай крывава здушылі незалежнасьць і сувэрэннасьць беларускага народу, абвешчаную Актам 25-га Сакавіка 1918-га году.

«За паняй маткай пацеры йдуць гладка». За Хрушчовам Мазураў войстра ганьбіў каляніялізм, але ідэялам свабоды называў сыстэму ў «турме народаў» найбольшай каляніяльнай дзяржавы — СССР.

Мазураў, называючы сябе «прадстаўніком сувэрэннай Беларусі», хваліў ланцугі, якімі скаваў савецкі імпэрыялізм свабоду беларускага народу.

Тут няма нічога дзіўнага: Мазураў — толькі пакорны падгалосак маскоўскай дыктатуры й ейнага імпэрыялізму, а не прадстаўнік беларускага народу, які выказвае імкненьні, пажаданьні й надзеі гэтага народу.

Гэтак званы «прадстаўнік» беларускага народу Мазураў гаварыў парасейску. У расейскай мове ёсьць трапнае слова «временщик». Вось-жа, хрушчовы, мазуравы — толькі «временщики». Верым, што ўрэшце прыйдзе час, калі з высокай міжнароднай трыбуны загучыць голас запраўднага прадстаўніка поўнасьцяй вольнага й сувэрэннага беларускага народу . . .

**пс**

# Археалягічныя раскопкі ў Беларусі

Закончылася археалягічная экспэдыцыя для дасьледваньня паселішча й бяскурганнага могільніка, які знаходзіцца ля пасёлка Адаменка Быхаўскага раёну. Экспэдыцыя была арганізавана Інстытутам гісторыі Акадэміі Навук БССР і арганізаванай групай для стварэньня рэспубліканскага гісторыка-краязнаўчага музэю.

На працягу двух месяцаў пад кіраўніцтвам Л. Побаля на раскапанай плошчы працягваліся работы. Выяўлены 22 жыльлі паўзямлянкавага тыпу, больш за сотню ачагоў з каменьняў, якія хутчэй за ўсё знаходзіліся ў жыльлі лёгкага тыпу — буданах. Акрамя таго пры раскопках выяўлена больш за сотню ямаў з попелам. Экспэдыцыя выявіла восем бяскурганных пахаваньняў з абрадам трупаспаленьня. Пахаваньні рабіліся ў круглых і падоўжаных ямах. Разам з рэшткамі спаленых трупаў у іх знаходзіліся пасудзіны, блізкія да так званай зарубянецкай культуры, і пасудзіны культуры, блізкай да «штрыхаванай керамікі». Гэта сьветчыць аб нейкіх сувязях гэтых дзьвёх культур.

У часе раскопак атрымана да 50 тысяч розных калекцыйных прадметаў.

*

Летнія археалягічныя экспэдыцыі Інстытуту гісторыі Акадэміі Навук БССР прынесьлі новыя каштоўныя матар'ялы аб мінулым Менску й Полацку.

На захаваўшыхся гістарычных плянах XVIII стагодзьдзя абазначаны абаронны вал старажытнага Менску. Апіраючыся на гэтыя дадзеныя, археолёгі наважылі знайсьці ўезд у ўмацаваную частку гораду. Іх пошук аказаўся ўдалым — адкрыты рэшткі ўезду, якія прымыкалі да рамеснага пасаду. Ува ўсходняй частцы праезду з вонкавага боку выяўлены часткі дубовага зрубнага збудаваньня, якое зьяўлялася вежай ля варот. Вежа сустракаецца ў помніках старажытнасьці Беларусі ўпяршыню. Яна дазваляе меркаваць аб характары ахоўных аб'ектаў. Тут выяўлены маставыя, якія акружалі ўмацаваньне з боку пасаду. Пачынаючы ад XI да XIV стагодзьдзя яны забрукоўваліся адзінаццаць разоў.

Удалося ўстанавіць, што пасад быў заселены ўжо ў XII стагодзьдзі. Цікавым адкрыцьцём зьяўляецца знаходка драўляных дрэнажных труб у пластах XII-XIII стагодзьдзяў. Жолабы ў іх прыкрыты драўлянымі векамі, што істотна адрозьнівае іх ад труб старажытнага Ноўгараду. У Менску яны служылі для адводу грунтовых вод у раку. Дрэнажная сыстэма сустракаецца ў гарадох Беларусі таго часу ў першы раз.

(БЕЛТА)

### СПРАВАЗДАЧА

**із зборкі ахвяраў на выдавецкі фонд выдавецтва «Бацькаўшчына»**

У часе адведзінаў д-рам Ст. Станкевічам беларускіх асяродзьдзяў Задзіночаных Штатаў Амэрыкі й Канады ў канцы жніўня й пачатку верасьня сёлета была праведзеная зборка ахвяраў на выдавецкі фонд Выдавецтва «Бацькаўшчына». Гэткім чынам было сабрана:

**1. У Дэтройце:** на падпісны ліст № 1 (зьбіраў д-р Г. Сажыч) — **55 даляраў; 2. у Чыкаго** на падпісны ліст № 2 (зьбіраў сп. Ч. Будзька) — **70 дал.; 3. у Кліўлэндзе** на падпісны ліст № 4 (зьбірала сп-ня І. Каляда) —**20 дал.** і на падпісны ліст № 5 (зьбіралі сп. сп. В. Стрэчань, М. Стрэчань і В. Страпко) — **72 дал.; 4. у Торонто** на падпісны ліст № 6 (зьбіраў сп. А. Маркевіч) — **25 дал.; 5. у Нью Ёрку** на падпісны ліст № 7 (зьбіраў сп. інж. Ю. Станкевіч) — **46 дал.** і на падпісны ліст № 10 (зьбіраў сп. А. Пазьняк) — **36 дал.; 6. у Нью Брансьвіку — Саўт Рывэр** (на падпісны ліст № 8 (зьбіраў сп. В. Русак) — **20 дал.** і на падпісны ліст № 9 (зьбіраў сп. А. Койка) — **20 дал.** Усяго разам сабрана **364 даляры.**

Падпісны ліст № 3, які быў перасланы поштай д-ру Б. Рагулю з просьбай правесьці такую-ж зборку сярод беларускае групы ў Лёндане (Канада), яшчэ ня зьвернуты й дзеля гэтага справаздача зь яго будзе пададзеная пазьней.

Усім тым, што злажылі ахвяры, а таксама й тым, што іх зьбіралі, на гэтым месцы выказваем шчырую падзяку.

**Выдавецтва «Бацькаўшчына»**

# Сьвежае, а так старое

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

пэрыяд паўстаньня Кастуся Каліноўскага. Падаю ліст маскоўскага мітрапаліта Філарэта да М. Мураўёва, а таксама ліст М. Мураўёва да міт. Філарэта. Я ня думаю, каб патрабаваліся нейкія камэнтары, бо Мураўёў паказаў сябе дастаткова добра, асабліва ў Горадзеншчыне й Віленшчыне.[3]

Зрабіў я невялікі экскурс у мінуўшчыну таму, каб чытач мог лепш зразумець суадносіны царквы да дзяржавы ў Маскоўшчыне. У наступнай частцы пастараюся паказаць, як маскоўскія царкоўнікі з маскоўскімі апрычнікамі ліквідавалі самабытнасьць Ноўгараду й як апраўдвалі сваю акцыю, спасылаючыся на прароцтвы. Адначасна, неабходна зацеміць, што пагляд, быццам-бы Маскоўская Праваслаўная Царква зьяўлялася на службе ці татарскіх ханаў ці маскоўскіх цароў — памылковы. Маскоўская Праваслаўная Царква на службе не зьяўлялася, а была ў хаўрусе, як роўнапраўны сябра маскоўскае палітыкі, якая імкнулася стварыць каляніяльную імпэрыю. Таму адказнасьць за праступствы ня могуць паносіць цары, але й мітрапаліты.

Дзеля таго, калі мы змагаемся за незалежнасьць, дык ня можа быць зірканьня ў каноны. Кажнае злачынства маскоўскага цара апраўданае Маскоўскай Праваслаўнай Царквой, а каноны Мас. Прав. Царквы апраўданы царамі, а таму кажны наш водрух у нашым жыцьці будзе неканаанічным . Аб гэтым пара ведаць, а таму выдаючы «Каляндары» Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква павінна ўжываць толькі беларускую мову і транскрыпцыю й упісваць беларускіх сьвятых, а ня так, як рабіла да гэтага часу, што павыкідала беларускіх сьвятых з каляндара 1960 г.

**1) Ярлык цара Бердібека выданы мітрапаліту Аляксею лістапада 1357 г.**

Бесмертнаго бога сілою і велічством із дед і прадед Бердібеково слово татарскім улусным і ратным князем Муалбуріною мыслію . . .

Чэнгіз царь і последнії царі нашї отці нашї і за тех моліліся молебнікі і весь чін поповскі. Какова дань ні буді ілі пошліна, іно тем не надобе ні відеті, чтобы зо упокоі Бога молілі і молітву вздавалі. Тако молвя, ярлыкі подавалі. I вынечні мы првых царей ярлыкі не ізыначівая, одумав, потому же есмы Алексія мітрополіта пожаловалі. I как сед і Богу моліться за нас і за племя наше молітву творіт. Так есьмы млвілі — і кая дань ні будеть ілі пошліна, не емлют у ніх, ні подвод, ні кормов, ні пітія, ні запросов, ні почестія не вздають. Ілі что церковнії домове, землі і воды, огороді, віноградї, мельніці, — і того у ніх не емлют, ні сілы над німі не творять нікакве. А кто будеть что взял ілі кто возметь, — і тот да отдасть назад. А в церковных кто ні будеть чтобы ся у ніх не ставілі ні рушіті іх. А кто ся іметь ставіті ілі рушіті іх, — і тоі в гресех да умереть. А ты, Алексей, мітрополіт і весь вашь поповьскый чін взмолвіть, что сяк пожаловані есмы да церковным домом, землям, водам, огородом, віноградом ілі над церковнымі людмі что учінішь чрез пошліну, — іно то на тобе. Ілі кто разбоем, татбою, лжею ліхое дело учініть каков, а не імешь того смотріті, іно то сам ведаешь, каково о том іспpавленіе учінішь. А о нас к Богу молітву творі, занеже ты преже, а мы потом не млвім нічего.

Так рекші, баісу да ярлык с алою тамгою далі на утвержені вам лета десятого месяца, а орда кочевала на Каонге.

**2) Пскоўская Летапісь**

(Стоевскі Сьпісок)

. . . I на третьее лето вложі оканный враг діавол в сердце князем роўскім взыскаті князя Александра, повеленіем окаянаго царя Возбяка . . . I, ставше су Новагорода, послаша послове во Псков, Луку Протасьева с дружіною, а от Новагорода владыку Моісея і тысяцкого Авраама і Федора посадніка; і рекоша князю Александру: поеді, господіне, в Орду, не погубі крестіян от поганых. Боголюбівый же князь хоче поехаті в Орду за вся крестіяны. I рекоша пьсковічі: не езді, господіне, в Орду; оже что будеть на тобе ізомрем, господіне, с тобою во одіном месте. I догадашеся князь Іван (Каліта — маё), оже не выяті князя Александра, ні выгнаті ратію, і намолві мітрополіта Феогноста, і посла мітрополіт в Псков проклятіе і отлученіе на князя Александра і на весь Псков. Боголюбівый же князь Александер рече псковічем: братья моа і друзі мої, не буді на вас проклятіа ні отлученіа мене раді; еду із града вашего вон, не буді вашего целованія на мне, ні моего на вас, толіко целуіте крест на княгіні моеі, како вам не выдаті. I плесковічі целоваше крест, і выеха князь Александр із Пскова пословно с псковічі, не мога трьпеті проклятіа і отлученіа, зане князь Александр добротов і любовію в сердці псковічем. Тогда бяшеть во Псков тугa і печаль і молва многа по боголюбівом князі Александре. Іван суслыша от псковскіх послов оже Александр ізо Пскова выехал, і кончаша мір вечныі с псковічі по старіне, по отчіне і по дедіне; і благослові мітрополіт Феогност і владыка Моісеі Селогу посадніка і всь Псков. I по тому князь Александр, бывь полтора года в Літве, і пріехаше в Псков ко княгіні, і пріяша его псковічі с честію і посадіша его в Пскове на княженії.

**3) Ліст мітрапаліта Філарэта да Гр. М. Мураўёва**

Было чуваць і відаць, што шматгадовая ўрадавая служба, вашае Эксцэленцыі, вымагала таго, каб вы атрымалі супачынак. Але, як толькі царскае слова паклікала вас на абарону й уціхамiраньне айчыны, вы аб усім забыліся й бязь хістаньня узялі на сябе цяжар такі, які вымагаў дужасьці, станоўкасьці, нястомнай дзейнасьці й новых сілаў у вадданасьці «цару і Отечеству».

Верныя сыны «цара і Отечества» з радасьцяй прынялі вестку й палажылі надзею, бо ўжо вашае прызначэньне азначала «пораженіе врагов Отечества», а вашае імя — перамога!

Дык хай Госпад Бог дакончыць вашае «дело правды і дело міра». Ды хай пашле вам нябёснага Архістратыга Міхала, і ён хай ідзе перад вамі зь мячом сваім агняным, а пакрывае вас сваім шчытом нябесным.

Вось з гэткімі думкамі й гэткімі пажаданьнямі перасылаю вам разам з сваім баславенствам і ікону сьвятога Архістратыга Міхала.

---

Дык вось, з Масквы, атрымоўваючы ад мітрапаліта Філарэта благаславенства й ікону з выразам усяе важнасьці ўскладзенага на мяне абавязку, я атрымаў спагаду царквы ў Расеі. Яна належна падтрымала мяне маральна на гэтым тут так цяжкім полі бітвы й гэта тады, калі я атрымваў, бадай штодня, ананімныя лісты з усіх бакоў Эўропы й на ўсіх мовах. Толькі зьмест і мова гэтых пасланьняў была асаблівай — лаянка, пагрозы, карыкатуры, рысункі шыбельніцаў і эшафотаў, пагрозы забойства кінжалом або атрутаю, ды прароцтвы няўдачы ў ліквідацыі паўстаньня. Быццам уся Эўропа была на баку паўстанцаў, а супраць нас і таму рана ці позна, але Расея ня зможа супрацьставіцца народнаму гневу гэтага краю й Эўропы. Выглядала, што справа гэтага краю ня ёсьць нашай хатняй справай, каб завясьці парадак, супакой і справядлівасьць. Таму я глыбока ўзрушаны напісаў удзячны ліст мітрапаліту Філарэту:

Глыбока кранула сэрца маё вашае Архіпастырскае багаславенства зь іконаю сьвятога Архістратыга Міхала. «Путі Всевышнего неісповедімы» — я неспадзявана паклікаены гасударом ад свае «мірское жізні» ды на «попрішче брані», для здушэньня «крамолы і мятежа». Пакладзены быў на мяне цяжкі абавязак, каб супакоіць край і каб пакараць «клятвопреступніков мерамі казні і кровi». Але ці чалавечы зірк у стане заглянуць, а што хавае ў сябе будучыня, па заканчэньні маіх мерапрыемстваў? . . .

Выконваючы, аднак, «долг верноподданого і русского», я ў поўнай надзеі на Бога застаюся, а таму я так спакойны духова, бо веру, што я іду тым шляхам, які прызначаны «свыше». А з дапамогаю нашага «доблестного воінства» я й ня сумлеваюся ў посьпеху.

Я аддаю сябе й «порученное мне дело уміротворенія» літоўскага краю вашаму Архіпастырскаму багаславенству й сьвятой маліцьве вашай.

**Міхась Белямук**



БАЦЬКАЎШЧЫНА

Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.

Выдавец: Уладзімер Бортнік

РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.